# НОВАЕ ЖЫЦЬЦЁ

**Цана асобнага нумару 500 м. п.**

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільна, Біскупская вул. 12.** (Biskupia 12).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 штодня апрача сьвяточных дзён.

**Выходзіць раз у тыдзень.**

Падпіска на адзін месяц з дастаўкаў да хаты 2000 м. п. Для заграніцы ўдвая даражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад ня вертаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 1000 мк., сярод тэксту 800 мк. і на апошняй страніцы 600 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

**№ 3** **Чацьверг, 15-га сакавіка 1923 г.** **Год I.**


# Захад ці Усход?

Здаўна Беларусь падлягае двум культурным уплывам: з Заходу — польскаму, з Усходу — расейскаму. Побач з барацьбой гэтых уплываў паміж сабою, ішло і аружнае змаганьне паміж Польшчай і Расеяй за фізычнае ўладаньне Беларускай зямлёй, якое завяршылася — прынамся да часу — падзелам нашае Бацькаўшчыны на аснове Рыжскага міру, гэткага крыўднага і гібельнага для народу Беларускага.

Але такі канец аружнага змаганьня зусім не зьяўляецца канцом змаганьня культурнага. Палітычныя межы ня могуць спыніць праніканьня культурных уплываў, праніканьня тых ці іншых ідэй у абедзьве часьціны Беларусі. І барацьба паміж культурнымі ўплывамі Заходу і Усходу на нашай зямлі будзе трываць далей.

Той факт, што беларусам прыходзіцца зрабіць яшчэ вялізарную творчую работу дзеля ўмацаваньня сваей самастойнай нацыянальнай культуры, прымушае сур'ёзна лічыцца з чужымі ўплывамі на нас у часе будаваньня нашае культурнае незалежнасьці. Хоч-ня-хоч, нам пакуль-што прыходзіцца карыстацца тымі культурнымі здабыткамі, якія прыдбалі сабе дужэйшыя за нас народы.

Вось-жа, ў Заходняй Беларусі зусім натуральна перавага ўплыву польскага, таксама, як у Усходняй — расейскага. Беларускае культурнае будаўніцтва йдзе і тут, і там, але йшчэ трудна сказаць, ці Вільня, ці Менск станецца цэнтрам, які дасьць кірунак усей нашай культуры. Усё залежыць ад таго, як будзе далей разьвівацца беларуская культурная творчасьць на абох бакох праведзенае ў Рызе гранічнае лініі. Усё залежыць ад таго, **ці Вільня, ці Менск дасьць вялікшы ўклад у нашу культуру, здалее стварыць больш культурных цэннасьцей.**

Дагэтуль здавалася, што такая кіраўнічая роль выпадзе на долю віленскага цэнтру, выявіўшага сваю перавагу ўжо ў перадваенных часах. Тут заўсёды гуртаваліся выдатнейшыя беларускія культурныя сілы, тут стварыліся галоўныя беларускія установы, друкаваліся кніжкі, газэты. Згэтуль ішлі ў народ усе нацыянальныя лёзунгі.

Аднак, апошнія гады паказуюць на поўную магчымасьць пераносу такога цэнтру з Заходу на Усход. Прынамся, **палітычны** цэнтр перайшоў у Менск ад часу абвешчаньня Радай Рэспублікі незалежнасьці Беларусі (пяць гадоў таму назад): ад 25 сакавіка 1918 году тамака зьмянілася толькі тое, што дзяржаўнае будаўніцтва Беларусі апынілася ў руках камуністаў. Цяпер мы бачым стварэньне ў Савецкай Беларусі вельмі моцнага **культурнага** цэнтру. Бачым там шырокую беларускую культурную работу, вядзеную **дзяржаўнаю уладаю**, бачым закладзіны сотняў беларускіх народных школ, школ другое ступені (гімназій), вышэйшых навуковых устаноў, урадовых часопісей, бачым увядзеньне беларускае мовы ў адміністрацыю краю. А ў тым-жа самым часе, ў Заходняй Беларусі—пад уладай Польшчы — лічба беларускіх народных школ **паменшала** з сотняў да дзесяткоў, сярэднія школы ледзьве дыхаюць, да вышэйшае навукі доступ беларускім матурыстам зачынены, і яны прымушаны ехаць у гасьцінную Прагу чэскую, і ці ў той-жа Менск, каб прадоўжыць вучэньне. Лічба культурных працаўнікоў працярэблена вядомай высылкай „трыццаці трох", а такжа выездам на Усход — бо тут ужо нельга было жыць. Аб беларускай прэсе сумна і ўспамінаць! Але найбольш яркай праявай аслабленьня вагі віленскага цэнтру зьяўляецца выдавецтва кніг: за 1922-23 вучэбны год можна на пальцах пералічыць выданыя ў Вільні школьныя учэбнікі. Тымчасам у Савецкай Беларусі бачым нешта зусім неспадзяванае: ў надрукаваным у гэтым нумэры сьпіску менскіх выданьняў 1922-23 г.г. знаходзім 44 назовы ўжо надрукаваных беларускіх кніг (—і то кніг вялікіх, вартых гэтага назову!), ды 16—у друку!

Як відаць, прыраўнаваньне выпадае не на карысьць Вільні. І гэта зразумела: ў Менску ўсё робіцца **на дзяржаўны кошт**, у Вільні — на кошт **выключна беларускага грамадзянства**, прымушанага несьці на сябе апрыч таго і вялізарны цяжар польскіх дзяржаўных выдаткаў. У Менску культурныя сілы прыбываюць, бо ўзгадовываюцца новыя пакаленьні культурных працаўнікоў. У Вільні яны ўбываюць. Дык трэба спадзявацца, што калі ў нас нічога ня зьменіцца, дык і ў будаваньні самастойнай беларускай культуры Менск апярэдзіць Вільню; а раз туды перанясецца кузьня, ў якой куецца наш нацыянальны дух і нашы культрныя ідэалы, раз Заходняя Беларусь будзе прымушана карыстацца здабыткамі менскага цэнтру, а не наадварот,— дык ясна, што, ня гледзячы на ўсе загародкі, будаваныя паміж Заходняй і Усходняй Беларусяй, уплыў культуры Усходу запануе ў нашай агульна-нацыянальнай культуры.

Ці добра гэта для беларусаў? Пакажа будучына.

Ці добра для Польшчы? —Ну, аб гэтым хай баліць галава тым польскім „дзяржаўным мужам", якія паставілі беларусаў пад уладай Польшчы ў зусім немагчымае палажэньне.

**Лаўрыновіч.**

---

# Палітычныя падзеі.

**Польшча.** Як відаць з справаздачы Р. К. К. Р., доўг дзяржаўнага скарбу павялічыўся ў лютым на 285 з паловаю мільярдаў марак і 28 лютага быў 1.085 мільярдаў мк. Выдана было розных „гаспадарчых" пазычак 54,7 мільярдаў мк.; сума ўсіх выпушчаных да гэтага часу банкнотаў—1.177.300 мільёнаў мк. На аднаго жыхара прыходзіцца каля 40.000 мк. (меній як 5 залатых франкаў) папяравых грошай у той час, як нармальнае эканамічнае жыцьцё вымагае ня меней як 60 зал. фр. на чалавека абаротнага капіталу.

Адбываюцца нарады паміж саюзам сельска-гаспадарчых работнікаў і саюзам землеўласьнікаў аб заключэньні калектыўных дагавораў на наступаючы с.-гасп. год. Вядзецца вострая барацьба; абшарнікі ставяць нямагчымыя варункі працы. Стасуюцца да болей сьвядомых работнікаў рэпрэсыі: па даным праф. саюзу толькі ў 60 паветах б. кангрэсоўкі і б. забору прускага выгнана са службы 7.338 парабкоў, 469 работніцкіх дэлегатаў, 167 mężów zaufania і г. д. Гэта робіцца на абшарах, дзе ўсёж такі закон хоць крыху дазваляе работнікам бараніць свае правы перад усемагутным панам, дазваляючы арганізацыю праф. саюзаў. А што-ж у нас „на крэсах", на якія да гэтага часу не разьцягнуты закон аб калектыўных дагаворах, дзе парабак выключна залежыць ад ласкі ясьневяльможнага пана, які апрача клясовай, мае да яго яшчэ нацыяльную ненавісьць.

**Францыя.** Забастоўка горнарабочых у басэйне Луары закончылася, работнікі дабіліся падвыжкі платы. Забастоўка ў Лотарынгіі і басэйне Саары трывае далей.

Санат большасьцю 193 галасоў адкінуў папраўку аб скарачэньні вайсковай службы да аднаго году.

Пуанкарэ заявіў, што толькі тады, калі немцы прызнаюць сваю віну і пойдуць на уступкі, Францыя згодзіцца разгледзець іх прапацыі.

**Літва.** Літва ў адказе на ноту Чычэрына згаджаецца на пасрэдніцтва паміж Польшчай і Літвою ў справе нэйтральнай паласы. Ходзяць чуткі, што місію пасрэдніцтва возьме на сябе Нарвэгія.

**Нямеччына.** Немцы адмовіліся выслаць свайго прадстаўніка ў камісію ў справе дастаўкі азотных прадуктаў Францыі, Італіі і Бэльгіі. Пры гэтым немцы заявілі, што начнуць з Італіей беспасрэдныя перагаворы аб дастаўцы гэтых прадуктаў.

У Баварыі раскрыт манархічны загавор. Арыштавана шмат відных манархістаў.

**Англія.** Адбыліся дадатковыя выбары ў парлямэнт. Ува ўсіх трох акругах кандыдаты ўрадавай партыі праваліліся. Відаць палітыка кансэрватыўнага кабінэту Бонар-Лоу ня мае спагаду сярод насяленьня.

Парлямэнцкая рабочая фракцыя пастанавіла перад скліканьнем канфэрэнціі прадстаўнікоў работніцкіх арганізацый і сацыялістычных партый усіх краёў, склікаць канфэрэнцыю прадстаўнікоў сацыялістычных фракцый французскага, бэльгійскага і італьянскага парлямэнтаў у справе Рурскай акупацыі.

**Турцыя.** Нацыянальнае Сабраньне ў Ангоры апрацавала гэткія варункі міру: Масульскае пытаньне павінна быць урэгулявана ў паразуменьні з Англіяй; фінансавыя, эканамічныя і адміністратыўныя справы павінны быць вырашаны згодна з прынцыпам поўнай незалежнасьці турэцкага народу; акупаваныя абшары павінны быць эвакуаваны зараз-жа па падпісаньні мірнага трактату. Мейсцам для далейшых перагавораў Турцыя прапануе Канстантынопаль.

**Баўгарыя.** У палове студня адбыліся выбары ў павятовыя рады. Усяго галасавала 994000 выбаршчыкаў. Найболей атрымала галасоў сялянская партыя—437000, далей камуністы — 230000, блёк рэакцыйнай буржуазіі — 219000, лібэралы—66000 і сацыялісты—41000.

### Справа ўсходніх межаў Польшчы.

Вырашэньне справы ўсходніх межаў Польшчы зацягіваецца, як кажуць, з прычыны хваробы ангельскага прадстаўніка. Літоўскі Старшыня Міністраў Гальванаўскас выезджае да Парыжа. Выехаў і Польскі міністар заграничных спраў п. Скржыньскі. Польскія газэты непакояцца аб тым, што справа можа быць вырашана не на карысьць Польшчы, дзеля таго што Урад выбраў неадпаведны мамэнт — калі саюзьніца Польшчы — Францыя заблуталася ў Рурскім пытаньні і шукае зьбліжэньня з Сав. Расеяй. Ясна, што каб найсьці падтрыманьне ў так важнай для сябе справе, Францыя гатова йсьці на уступкі ў не так важных для яе Польскіх справах.

### Адраджэнскі рух сярод лужыцкіх славян.

Гэты, бадай адзін з найменшых, славянскіх народаў, ня гледзячы на цяжкія варункі свайго істнаваньня сярод нямецкага мора, горача ўзяўся за справу свайго нацыянальнага адраджэньня; асабліва рух гэты ўзмогся ў паваенныя часы і карыстаецца падтрыманьнем другіх братніх народаў, якія здабылі ўжо сваю незалежнасьць, як Чэхія і Югаславія. У часе заключэньня Вэрсальскага трактату лужычане выставілі дамаганьне сваей нацыянальнай незалежнасьці і хоць гэтыя жаданьня не здзейсьніліся, ўсё-ж-такі ня страцілі веры, а з новай энэргіяй вядуць працу ў справе нацыянальнага адраджэньня, на грунце культурным, сацыяльным, гаспадарчым.

Найбольшую дзейнасьць выяўляе арганізацыя лужыцкага „Сокала"; заснаванага праз студэнта пражскага ўнівэрсытэту Гэрмана Шлецы. Гэтая арганізацыя падтрымлівае цесную лучнасьць з падобнымі чэскімі арганізацыямі. Гаспадарчыя арганізацыі так-сама пашыраюцца; найболей важнаю з іх зьяўляецца заснаваны ў 1919 г. Лужыцкі Народны Банк. Шырака вядзецца культурная праца: закладаюцца школьныя таварыствы, выдавецтвы, народны тэатр, нацыянальны хор і г. д. У часе апошніх выбараў у нямецкі парлямэнт лужычане выступілі з уласнымі сьпіскамі кандыдатаў і цяпер змагаюцца аб увядзеньні ў школе лужыцкай мовы.

---

# Аб польскім „злотым".

Міністар фінансаў Грабскі ўнёс у Сойм праэкт уставы аб аздараўленьні фінансаў. Усім нам добра вядома гэтая хвароба польскіх фінансаў, якая выклікае пастаянную зьніжку маркі і ўзрост дарагавізны. Вось-жа цяпер польскія фінансісты займаюцца вышуканьнем тых срэдстваў, якія-б маглі стварыць варункі для устанаўленьня сталага курсу польскай валюты.

Найлепшым разьвязаньнем гэтага пытаньня было-б такое, каб выпусьціць новыя грошы, якія-б забясьпечываліся адпаведным запасам золата, альбо якіх-небудзь іншых сапраўдных вартасьцяў. Заставалася-б тады ўстанавіць у які спосаб і тэрмін цяперашнія маркі будуць вымянівацца на новую валюту; пасьля гэтага марка перастала-б істнаваць, а Польшча мела-б новую валюту, забясьпечаную золатам ці іншымі сапраўднымі вартасьцямі.

Але ў сучасны момант такая аснаўная рэформа валюты ў Польшчы не магчыма па той простай прычыне, што запас у дзяржаўным скарбе золата і

сама лёгка сьцяміць і Беларуса, і Украінца, тады калі ўжо надта трудна зразумець Вялікаросу з аднаго боку і Беларуса, адчасьці і Украінца, з другога.

Гэта зьявішча так сама пэўнае, як і папярэдняе—лёгка можна выясьніць. Жыцьцёвыя абставіны памаглі стварыць такія а ня іншыя факты. З аднаго боку палякі, якія раскіданыя на Беларусі на Заходзе гусьцей, на Усходзе радзей ці зусім няма; тое самае больш-менш і з Украінцамі. Яшчэ нат балей, бо ўспомнім што ў працягу некалькіх сталецьцяў абедзьве старонкі належалі да Рэчыпаспалітае Польскае, так што й мовы іх былі праз увесь гэны час пад уплывамі польскімі, тады калі аддзеляныя граніцамі ад Маскоўшчыны разьвіваліся зусім ад яе незалежна. Аднак адна і другая прычыны зусім другарадныя; прычына, якая выкапала такі глыбокі роў паміж беларускаю і украінскаю з аднаго і маскоўскаю з другога боку, гэта была і ёсьць сэмазіолёгія і шукаць прычын на іншым грунце было-б што найлепш няразвагаю.

Мова беларуская і украінская, як галіны славяншчыны, узгадоўваліся выключна на ўласным грунце, выходзячы з іх асаблівасьцяў фонэтычных, не падлегаючы уплывам іншых расаў. Зусім інакшае было разьвіцьцё маскоўскае; гэта была мова калёнізатараў-славян і абславяншчаных, раскіданых астраўкамі густымі сярод пляменьняў фінскіх, якія з часам перамяшаліся з імігрантамі, прыймаючы іхнюю славянскую гутарку І дзеля гэтага бачым, што глыбь лексіколёгічная маскоўская, маець у сабе надта многа слоў не славянскіх, а прытасаваных толькі фонэтычна да зваротаў імігрантаў. Гэтыя перамены мусялі стварыцца ў старонцы далёкай ад цэнтру славяншчыны, праз доўгі час зусім ад яго аддзелянай, у надта блізкім суседзтве з даўнымі жыхарамі—фінамі і пад бязупынным уплывам войстрага паўночнага клімата, які фізыолёгічна пераінакшываў розныя органы голаса. І гэта ня адна толькі прычына дэславянізацыі маскоўскае мовы. Татарскае ярмо, так доўга душыўшае Маскву, аставіла шмат элемэнтаў татарскіх, падпарадкаваўшыхся, праўда, да зваротаў славянскіх колішніх імігрантаў. І вось, дзякуючы вышэйпамянёным прычынам і абставінам, зусім чужацкія элемэнты ўеліся ў гутарку Вялікаросаў, найбалей мо бачым гэта у ўсходняй часьці Маскоўшчыны, сучасная расейская мова далёка адсунулася ад беларускай і наагул супольнага іхняга кораня. Але гэта яшчэ ня ўсё. На гэту іх неаднолькавасьць —рознасьць папхнула адна рэч, якая дужа моцна выказваецца ў будзёныя дні. І фінскіх і татарскіх слоў і зваротаў ня так ужо многа, каб дзеля гэтага немагчыма ці цяжка было нам паразумецца з Маскоўцамі. А вось маюць яны надта многа слоў чыста-славянскіх, значаньне, якіх аднак так далёкае ад характэрнага сэмазіолёгічнага пачатковага, што азначаюць яны зусім іншую рэч, часта зусім адваротную чымсьці разумеюць у іх Беларусы ці Украінцы. Гэта зьяўляе сабою вялікую цікаўнасьць з боку этнопсыхолёгічнага, перадусім у прыметах. Бачымо там драгацэнныя показы мэтаморфозы сэмозіолёгічнае, якія могуць ў поўнай меры нам выясьніць, якія страшэнныя перамены ідэолёгічныя тварыліся ў псыхіцы нацыі велікарускае ўжо хаця-б у спосабе азначаць пэўныя асаблівасьці псыхічныя і маральныя, выражаныя праз прыметы, спэцыяльна там, дзе сустрэкаемся з паняцьцём дабра і зла. Гэтых уваг, мо праўда і кароцянькіх, зусім хапляе, каб выказаць розьніцы, якія бачацца паміж моваю чатырох славянскіх пляменьняў (Беларусы, Вялікарусы, Украінцы і Палякі)".

Да вышэйпаказанага можна было-б шмат чаго дадаць аб залежнасьці кожнае з гэтых моваў, ад гэографічных і кліматычных абставін, у якіх жывуць гэтыя народы. Людзі, маючыя нат супольную гутарку, калі жывуць пад „living рознымі" небамі, маюць іншыя розныя характары, залежна ад клімату, твораць іншыя мовы.

Вось аб чым ня ведаюць і ня хочуць ведаць зусім нашыя „дабрадзеі". Ня ведаюць ці ня хочуць ведаць яны і афіцыяльных прыгавараў вучоных установаў, як напр., прызнаньне Акадэміі Навук у Петраградзе у 1905 г, у якой гаворыцца, што безумоўна мовы беларуская і украінская—славянскія і зусім розныя ці ад расейскае, ці нейкае іншае. І кажучы так, яны не займаліся пытаньнем, ці ёсьць такія народы, ім йшло аб праўду навуковую, яны прызналі беларускую мову самабытнай і гэта даець нам юрыдычнае права патрэбаваць сабе беларускіх школ.

**С. Грынкевіч.**

⟡⟡⟡⟡

# Маленькі фэльетон.

## Саусім нацыянальная назва.

Некаторыя расейцы, ад няма чаго рабіць на эміграцыі, перахрысьцілі быўшую вотчыну „Дому Раманавых", даўшы ёй новае імя. Была нядаўна вось „Россія", а па думцы мудрых яе некаторых сыноў мусіць яна цяпер называцца „Евразія".

Падобныя майстры ёсьць і сярод „быўшых" беларусаў.

„Быўшых" —таму, што цяпер яны ўжо хочуць называцца йначай

Ды, праўда й тое, што гэта за назва гэтая, нікому невядомая—„беларусы", „Беларусь",

Адным гэта так да ўспадобы, што яны ня могуць ніводнага дня легчы спаць раней, чымся тры разы не перажагнаюцца, ды ня скажуць разоў са дзьвацаць гэтае назвы.

Сюды можна аднесьці розных патэнтованых і не патэнтованых беларускіх (вось і памыліўся—цяпер ужо трэ было-б сказаць іначай) „дзеячоў", «паўдзеячоў», „паддзеячоў" і «дзеячыкаў». Іх ня надта шмат.

Другія—гэта вялізная шэрая хмара нашага народу, які саўсім яшчэ ненасмакаваўся гэтаю, для мудрых „павадыроў" яго пастарэўшаю, назваю, а дзенядзе жыхарствуе сабе, як так сабе: «тутэйшы».

Але што там гаварыць аб шэрай масе, мудрацы заўсёды цікавейшыя на выгляд.

Адзін наш мудрэц, стаўшы студэнтам старога заграпічнага Унівэрсытэту, ўдарыўся ў гэткую старасьветчыну, што бяз ніякіх трудоў адкапаў, як яму здаецца „гістарычны н а з о ў беларусаў".

Цяпер, бачыце, часта гаўкаюць, што беларусы — народ саўсім негістарычны.

Дык пачаў камбінаваць наш мудры юнак, як-бы гэта адным росчыркам бравага пяра скасаваць, няцікавую для яго, назву «Беларусь» ды замяніць чымнябудзь гэткім, каб усім уваччу пацямнела.

Кінуўся ён спачатку да спробаванага спосабу выдумляньня штучных словаў; гэта ўжо раней удавалася і рэзультат—найлепшы.

Навюсенькія, як шкло звонкія, слоўцы ўваходзяць у моду, ўбіваючыся ў галовы беларускай вучнёўскай моладзі, трапляючы ў гэтыя скарбонкі проста са школьных падручнікаў, зрэдагаваных мудрацом-эмігрантам-студэнтам.

Валяй душа! Можа й новае імя Беларусі гэтак-жа лёгка прышчэпіцца да маладога пакаленьня.

Студэнт спомніў, што раз у жыцьці ён ужо рыхтаваўся быць ксяндзом і наперад ведаў, што ў будучыне можа давесьціся хрысьціць дзяцей.

Але, каб ведаць загадзя, што давядзецца перахрышчываць цэлы народ—гэтага ён раней ня думаў і, нажаль, не падрыхтаваўся.

Дык пачаў проста з галавы запісваць на вольнай картачцы блёк-ноту розныя, няпростага гатунку, словы:

Травія, Лесія, Рэкія, Кукія, Ідыя, Айяйія...

На момэнт спыніўся і пачаў мазгаваць.

Пачаў шукаць сэнсу ў наехаўшых на паперу словах:

— Травія,—меркаваў ён,—гэта н а з о ў не благі, хаця крыху праставаты.

Але-ж травы ў нас даволі, кожны лёгка зразумее адкуль слова гэтае завязалася і можа нават падумаць, што слова вырасла з травы, а не з маіх мазгоў.

Гэтак не надаецца да ўжываньня й Лесія, бо кожны нямецкі гандляр ведае, што мы—лясная старана.

Ня лепшы н а з о ў і Рэкія, бо рэкі ёсьць шмат дзе на грэшнай зямлі.

Кукія! Эврыка! Тут хіба толькі кожная маладая маці дадумаецца адкуля слова пайшло, бо нашыя дзеці, часта г у к а ю ц ь „кука", „кука", калі ім палец забаліць.

Ну, але непаважна гэта будзе, нейк падзіцячаму.

Ідыя... Гэта даволі рызыкоўна, бо людзі разумныя падумаюць, што мысягоньняшнія, пакуль што, беларусы—ідыёты.

А гэта крыху ня так, не саўсім згодна з праўдаю.

Айяйія... Вось гэта дык на нейкі час быўбы найпраўдзівейшы назоў:

Нас цяпер здорава лупяць, яшчэ здаравей нам баліць і ня шкодзіла-б на ўвесь сьвет Аяяйкаць.

Але ў вушах можа таксама забалець дый пяршыць калі-нібудзь пачне.

Што там доўга галаву ламаць, махну я лепей проста Крывія.

Бо былі-ж на нашай зямлі ў невядома якія сівыя часы крывічы, ад іх н а й б а л е й і ўвесь наш род пайшоў.

Наагул гэтае слова шмат можа мець з н а ч э н ь н я ў, найхутчэй пачне народам вымаўляцца, можа з часам вельмі спадабаецца, можа і ня будзе нават здавацца... крыху крывым.

А народ, пэўна што, рад будзе, бо новае заўсёды больш цешыць, як старое.

Беларусь аднавіцца. Ей будзе куды л я п е й, бо як хочаце, а гэтак яе яшчэ ніхто ніколі не называў. Чэсьць гэтага назову навекі належыць майму роду і пакаленьню.

Хай жыве Крывія!—гукнуў ад аўтарскае радасьці студэнт і, не адкладаючы на заўтра, сеў пісаць цэлы трактат на новую тэму.

**Звончык.**

⟡⟡⟡⟡

# Пісьмы з Сэрбіі.

## Пацалунак ў руку.

Гэта здарылася ў першы тыдзень майго прыезду ў Сэрбію.

---

школа ў Латвіі прыпадала, ў сярэднем, на 1050 асоб жыхароў.

Параўняем цяпер працэнт граматнасьці і лік аснаўных школ, якія маюць беларусы, з працэнтам граматнасьці і лікам школ аснаўных у іншых галоўнейшых нацыянальнасьцяў Латвіі.

| Нацыянальнасьць. | Працэнт граматнасьці мужчын і жанчын. | Колькасьць нацыянальнасьці | Лік аснаўных школ. | На які лік жыхароў прыходзіцца 1 асн. школа |
|---|---|---|---|---|
| Латышы | 74—74 проц. | 1.119.000 | 1.317 | 850 |
| Вялікарусы | 43—28 проц. | 91.477 | 198 | 462 |
| Немцы | 83—87 проц. | 58.097 | 73 | 796 |
| Беларусы | 39—27 проц. | 66.194 | 50 | 1324 |

Табліца гэта так ярка малюе становішча прасьветы беларускай нацыянальнай меншасьці, што не патрабуецца ніякіх камэнтарыяў. Вывады з яе таксама напрашываюцца самі сабой: неабходнасьць павялічыць лік беларускіх аснаўных школ яшчэ на 50%-75%, а таксама дабіцца, каб прыцягнуць шырокія беларускія масы на вячэрнія курсы для пісьменных.

Амаль такі-жа малюнак і з сярэдняй школай.

Усяго ў Латвіі 109 сярэдніх школ, з 15.000 вучнямі ў іх. Гэта знача што кожная сярэдняя школа прыходзіцца, ўсярэднем, на 16.750 чалавек насяленьня, а ў кожнай школе вучыцца 138 вуч.

Калі параўняць гэтыя данныя з статыстычнымі даннымі аб школах кожнай у асобнасьці нацыянальнасьціў Латвіі, то атрымаецца гэткі малюнак:

| Нацыянальнасьць | Колькасьць нацыянальнасьці | Лік сярэдніх школ | На які лік жыхароў прыходзіцца 1 сярэдняя школа |
|---|---|---|---|
| Латышы | 1.119.396 | 60 | 18.656 |
| Вялікарусы | 91.477 | 25 | 3.659 |
| Жыды | 9.368 | 9 | 8.818 |
| Беларусы | 66.194 | 2 | 33.048 |
| Немцы | 58.097 | 10 | 5.809 |
| Палякі | 52.244 | 3 | 17.414 |

Тут таксама ўсё ясна бяз слоў.

Напрашываюцца і тут такія-ж самыя вывады; як і адносна аснаўных беларускіх школ, але да іх прыбаўляюцца і яшчэ некаторыя: беларуская нацыянальная меншасьць жыве на вёсках, а дзеля гэтага можа пасылаць сваіх дзяцей толькі ў такія сярэднія школы, якія знаходзяцца непадалёк ад іх вёсак, або маюць танныя і добра пастаўленыя інтэрнаты; беларускае сялянства і дашчэнту зруйнаваная вайной і інтэлігэнцыя, пастаўленая ў неабходнасьць утрымліваць сваіх дзяцей, якія вучацца ў сярэдняй школе, асобна ад усей сям'і ў дарагіх мястовых інтэрнатах, —часта зусім не маюць магчымасьці каб аплаціць за права навукі, дзеля гэтага неабходна прылажыць усе высілкі на тое, каб зрабіць магчымым зусім зволніць ад платы 50% вучняў беларускай сярэдняй школы, а для іншых 50% панізіць яе да палавіны.

## VII.

## Агульныя вывады.

Год працы беларускай школы давёў яе жыцьцёвую неабходнасьць і пераканаў ініцыятараў яе паяўленьня ў тым, што яны не напрасна паднялі свой голас у абароне інтэрасаў найбольш адсталай часткі латвійскіх грамадзян, — беларускай нацыянальнай меншасьці.

Тыя дакоры, якія сыпаліся на Беларускі Аддзел у мінулым годзе за часовае карыстаньне расейскай мовай для выкладаньня ў беларускіх школах, цяпер, з пераходам першай партыі беларускіх школ на выкладаньне на беларускай мове, ў значнай ступені адпадаюць, а ў будучым годзе і зусім адпадуць. А калі мы яшчэ прыпомнім, што ня толькі ў беларускіх школах, але таксама і ў школах іншых меншасьцяў, а часам нават і ў латыскіх нацыянальных школах*), абставіны школьнага жыцьця патрабавалі, і патрабуюць часовага карыстаньня расейскай мовай, як мовай выкладовай, — дык гэта абвінавачэньне, ўжо і сёньнека, зусім адпадае.

Істнуючыя ў беларускіх школах недахваты—ў значнай меры агульны з недахватамі іншых школ у Латгаліі і можна іх будзе пазбыцца ў бліжэйшыя гады, па меры наладжываньня агульнага жыцьця Латгаліі.

Імкненьне некаторых меншасьцяў вясьці змаганьне з беларускай школай, з мэтай падпарадкаваньня не сваім уплывам, разглядаецца і ўважаецца беларусамі, але, зважаючы на тое, што ў гэтых меншасьцяў цяпер няма ў руках гаспадарсьцьвеннага прымусовага апарату, якім у свой час яны карысталіся дзеля сваіх мэтаў,—сучасныя іх спробы скончацца на нічым, асабліва пры агульным падняцьці ў беларусаў нацыянальнай самасьвядомасьці і пры Дэмакратычна-Рэспубліканскай Уладзе, якая лёяльна адносіцца да ўсіх меншасьцяў і безстароньне абараняе іх правы ад усялякіх напасьцяў з боку. Дзеля гэтага беларускія культурна-прасьветныя арганізацыі і паасобныя працаўнікі спакойна ўзіраюцца на гэтыя напасьці і ня думаюць уцягівацца ў накідываную ім барацьбу, каб не марнаваць сілаў і часу, так патрэбных для шырокай прасьветнай працы ў беларускіх масах, каб хоць крышку прыбліжыць іх да роўні агульна-латвійскай культуры.

Страшная беднасьць беларускага сялянства і мястовых зьяўляецца яшчэ аднэй перашкодай да пашырэньня сярод іх прасьветы, але і гэта зьявішча, з паступовым паляпшэньнем агульных варункаў быту і з належнай дапамогай улады і грамадзкіх арганізацый бязумоўна зьменшыцца і ня стрымае таго патоку сьвету, які ўжо пачынае пранікаць сарод беларускай нацыянальнай меншасьці ў Латвіі.

**К. Езавітаў**

К А Н Е Ц.

*) У м. Краслаўцы і ў іншых мяйсцох Латгаліі.

